*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

**№ 86 (1151)**

Серада, 16 мая 2001 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



## НАВІНЫ

### Якія сімвалы вы лічыце сваімі?

**Выкліку ў суд чакаюць удзельнікі апытання грамадзян, праведзенага ў Віцебску 13 мая, на тэму: "Якія сімвалы вы лічыце сваімі — нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня" або сённяшні дзяржаўны герб і сцяг?".**

Увечары 13 мая дзве дзяўчыны з маладзёжнага крыла Віцебскай арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) — Ірына Байдак і Наталля Завадская, а таксама іх госць з горада Гродна Эдуард Бохан выйшлі на шматлюдны прыпынак грамадскага транспарту, насупраць фестывальнага амфітэатра. Яны трымалі ў руках аркуш паперы, на якім была напісана тэма апытання, і два сцягі — бел-чырвона-белы і чырвона-зялёны.

Праз паўгадзіны, пасля кароткіх спрэчак з міліцыяй, падчас якіх удзельнікі акцыі паспрабавалі даказаць, што апытанне — гэта не пікет, маладыя людзі былі прымусова дастаўлены ў аддзел унутраных спраў Чыгуначнага раёна Віцебска. Складзены пратаколы затрымання, а ўсе прылады, з якімі праводзілася апытанне, канфіскаваныя, у тым ліку плакат з подпісамі грамадзян (39 подпісаў за сцяг бел-чырвона-белы, 11 — за чырвона-зялёны).

**Леанід СІМАНАЎ.**

### Укладчыкам "БелБалтыі" далі надзею

**Нацыянальны банк Беларусі зацвердзіў правілы датэрміновага вяртання грашовых сродкаў фізічным асобам, якія заключылі з адкрытым акцыянерным таварыствам "Ашчадны банк "Беларусбанк" дагаворы на пагашэнне запазычанасці таварыства з абмежаванай адказнасцю "Сумесны беларуска-латвійскі банк "БелБалтыя".**

Заявы на перавод запазычанасці ў ААБ "Беларусбанк" прымаюцца ад укладчыкаў "БелБалтыі" да 1 чэрвеня 2001 года. На падставе заяў фарміруецца рэестр укладчыкаў, які да 1 ліпеня будзе перададзены ў ААБ "Беларусбанк". Фізічныя асобы, якія ўключаны ў рэестр укладчыкаў, заключаюць з 1 ліпеня па 1 верасня 2001 года дагаворы з ААБ "Беларусбанк" аб пагашэнні запазычанасці.

**Аляксей АРЭШКА.**

### Пікетчыкаў зноў кінулі ў варанок

**14 траўня ў судзе Цэнтральнага раёна горада Мінска адбыўся суд над сябрам Барысаўскай арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Алесем Барадулем. Ён разам з іншымі сябрамі сваёй філіі барысаўчанамі Зміцерам Фядорчанкам, Сяржуком Падзолкам і актывісткай Маладой Грамады Таццянай Ясюк 7 траўня пікетавалі будынак аблвыканкама каля Палаца Рэспублікі. Удзельнікі акцыі трымалі лозунгі "Дзе Захаранка? Хто наступны?" і "Дзе зніклыя людзі: Захаранка, Завадскі, Ганчар, Красоўскі?", "Рукі прэч ад апазіцыі!"**

Пікетоўшчыкі здолелі пратрымацца літаральна некалькі хвілін, пасля чаго брутальным чынам былі кінуты ў міліцэйскі варанок. Затрыманнем непасрэдна кіраваў апрануты ў цывільную вопратку намеснік начальніка Цэнтральнага РАУС спадар Барсукоў.

Зміцера Фядорчанку асудзілі ў гэты ж дзень. Суддзя суда Цэнтральнага раёна Н.М.Вайцаховіч аштрафавала яго на 20 мінімальных зарплат. Сяржука Падзолку і Таццяну Ясюк адпусцілі з пастарунку праз тры гадзіны без уручэння позваў у суд, але з вуснымі запалохваннямі. Алесю Барадулі ўручылі судовую позву на 14 траўня.

Тая ж суддзя Н.М.Вайцаховіч, таксама як і ў выпадку са Зміцерам Фядорчанкам, аштрафавала А.Барадулю 14 траўня на 20 мінімальных заробкаў. Інтарэсы барысаўскага сацыял-дэмакрата ў судзе абараняў прадстаўнік праваабарончага цэнтра "Вясна" Барыс Гюнтэр.

**Алесь АБРАМОВІЧ, старшыня Барысаўскай філіі БСДП(НГ).**

### "Хочам ведаць праўду"

**16 мая ў рамках кампаніі "Хочам ведаць праўду" Мінская гарадская арганізацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) правядзе ў сталіцы дзве акцыі. Іх мэта — нагадаць грамадскасці пра грамадзян, што зніклі без вестак, — Віктара Ганчара, выконваючага абавязкі старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, і бізнесмена Анатоля Красоўскага. Абодва яны зніклі 16 верасня 1999 года.**

З 15 да 16 гадзін акцыя адбудзецца на месцы знікнення Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага — на перакрыжаванні вуліцы Серафімовіча і завулка Рабочы, ля дома № 20. У гэты ж дзень, з 16.30 да 17.30, акцыя з раздачай адпаведных інфармацыйных матэрыялаў пройдзе на праспекце Ф.Скарыны, ля будынкаў МУС і КДБ. Правядзенне аналагічных мерапрыемстваў прызначана ў гэты дзень і ў іншых гарадах Беларусі.

Першыя акцыі ў рамках кампаніі АГП "Хочам ведаць праўду" прайшлі ў Мінску, Віцебску, Магілёве і Салігорску 7 мая — у другую гадавіну знікнення былога міністра ўнутраных спраў Беларусі Юрыя Захаранкі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

# ВСЕБЕЛОРУССКОЕ СОБРАНИЕ:

## БУДЕТ ЛИ ОТ НЕГО ПОЛЬЗА?

### Непатрэбным мерапрыемствам лічаць 37 працэнтаў мінчан Усебеларускі сход

**"18 мая ў Мінску адбудзецца другі Усебеларускі народны сход. Як бы вы ацанілі маючы адбыцца форум?". З такім пытаннем звярнуліся да жыхароў беларускай сталіцы супрацоўнікі сацыялагічнай службы "Зеркало" інфармацыйнай кампаніі БелаПАН падчас апытання, праведзенага ў пачатку мая.**

Былі апытаны 500 мінчан ва ўзросце 18 гадоў і старэйшых. Каля паловы — 42 працэнты — не змаглі адказаць на прапанаванае пытанне. 37 працэнтаў апытаных ацанілі маючы адбыцца форум як непатрэбнае для краіны, беларускага народа мерапрыемства, якое, "акрамя траты грошай, нічога не дасць". Разам з тым 16 працэнтаў рэспандэнтаў лічаць другі Усебеларускі народны сход вельмі карысным для народа Беларусі, патрэбным і своечасовым мерапрыемствам. Астатнія (5 працэнтаў) або нічога не чулі пра гэты форум, або адзначылі, што і ад першага Усебеларускага народнага сходу рэальнай карысці не бачылі.

Сярод прыхільнікаў мерапрыемства пераважаюць асобы з сярэдняй адукацыяй (70 працэнтаў) і людзі ва ўзросце 50 гадоў і старэйшыя (42 працэнты). Сярод праціўнікаў — рэспандэнты з вышэйшай адукацыяй (37 працэнтаў) і мінчане 30—49 гадоў (58 працэнтаў).

**Леанід МІХЕЙЧЫКАЎ.**

*18 мая открывается так называемое Всебелорусское народное собрание. Мы решили задать три вопроса некоторым его делегатам:*

**1. В 1995-м и 1996 году Лукашенко ломал Конституцию через референдумы, используя грубую фальсификацию. Дальнейший слом Конституции режим, не исключено, проведет через так называемое Всебелорусское собрание. Если, скажем, встанет вопрос об одобрении фактической оккупации Беларуси Россией, как Вы лично будете голосовать?**

**2. За 7 лет правления Лукашенко в Беларуси смертность превысила рождаемость, жизненный уровень большинства людей упал, можно сказать, до катастрофической черты. Выступите ли Вы на собрании с критикой бездарной политики Лукашенко и его окружения?**

**3. За последние годы в Беларуси при загадочных обстоятельствах скончались или бесследно исчезли такие видные представители оппозиции как Майсеня, Карпенко, Захаренко, Гончар, Завадский, Красовский... Как участник собрания поставите ли Вы вопрос о принятии специального документа, касающегося политического терроризма в Беларуси?**

**Виктор Васильевич БУРЫЙ,**
**директор ОАО "Мостовдрев", г.Мосты Гродненской области:**

1. — Я буду голосовать за объединение России и Беларуси. И я не понимаю, что в этом плохого. Что хорошего в том, что мы сегодня оторваны, и ни туда и ни сюда... Насчет оккупации это вы слишком. Это неправильно. Я например, учился в России, в институте. Я все понимаю, и нормально, положительно отношусь к этому союзу. Если будет поставлен на голосование такой вопрос, я проголосую "за".

2. — Кое-какие наброски моего выступления, конечно, есть. Но, наверное, возможности выступить у меня не будет. Ну а критика? Что такое критика? Проблемы есть. Наверное, и собирают собрание для того, чтобы эти проблемы обсудить и принять какие-то решения. Вчера в Гродно выступал зам. министра по экономике, изложил предварительные направления, о которых он будет докладывать на этом собрании. Надо работать и жить в любое время.

3 — Я в эти дела не вмешиваюсь. Есть органы, к ним и обращайтесь. Я не желаю ставить этот вопрос на обсуждение, это не в моей компетенции. У меня проблем на предприятии столько, что... У нас есть кому этими вопросами заниматься.

**Ирэна Францевна ШИЛКОНЬ,**
**председатель Гродненского областного объединения профсоюзов:**

— Я дала интервью газете "День", на этом остановимся.

*(Вообще-то интервью как такового не было. Как известно, из всех областных обкомов Федерации профсоюзов Белорусской решение об участии в президентском мероприятии было принято только руководством гродненской и гомельской профсоюзных организаций. Журналисты газеты "День" попросили Ирэну Шилконь прокомментировать этот факт. Она заявила следующее:* "Я рассчитываю на понимание со стороны руководства. Приняв такое решение, я выполнила волю областного президиума федерации". *Шилконь также заметила, что* "главное для нас — это создание условий для эффективной работы субъектов хозяйствования. Речь идет о снижении налогового пресса на производителей, а также — упорядочении и упрощении налогообложения". *На вопрос журналиста "Насколько реально будет убедить в этом президента?" Шилконь ответила, что она верит в то, что голоса делегатов, имеющих подобное мнение, "будут услышаны".* — **Авт.**)

**Николай Иванович ЧЕРГИНЕЦ,**
**председатель комиссии по международным делам и национальной безопасности Совета Республики Национального собрания Республики Беларусь:**

1. — Я никогда не буду голосовать за шаги, которые ущемляют суверенитет нашей страны. И не думаю, что найдутся люди, которые будут голосовать за потерю суверенитета. Мы должны быть свободным, независимым государством. Когда речь идет о союзе с Россией, то речь идет не о сдаче суверенитета. Нам действительно надо находить возможности торговать с Россией лучше, развивать свою экономику с помощью России, а затем выходить на новые рубежи развития техники, чтобы наша продукция могла спокойно конкурировать в мире. К сожалению, мы этим похвастаться не можем.

Сегодня там, где мы могли бы нормально торговать в Европе, нам выдвигают политические условия...

**— Может, есть смысл прислушаться?**

— Если им не нравится политическое устройство Беларуси, они не разрешают продавать на мировом рынке, например, калийные удобрения. Это же не подход. Смешивают одно с другим. Вопросов много...

2. — Я выступать, конечно, не буду. Люди готовятся к выступлениям заранее. Я не занимался этим вопросом.

**— Можно выступить по личной инициативе...**

— По личной? Сейчас у меня будет серия статей в прессе по проблемам, которые я вижу и знаю, что нам надо делать. Я изучил вопросы по борьбе с пьянством и считаю, что нам надо пересматривать тактику и государственный подход к этой проблеме. Хотелось бы поднять вопросы о борьбе с правонарушениями в сфере быта. Надо подумать, что нам делать.

3. — Это вы так считаете. Я не считаю, что у нас политический террор.

Вон Латвия объявляет Беларусь своим врагом. Министр обороны этой страны выступил и назвал Беларусь вероятным противником Латвии. И все газеты молчат, считают это правильным. Только "Рэспубліка" поместила маленькую статью. Я даже удивился. Казалось бы, в наше время в Европе, кто бы на какой стороне баррикад ни был, заявлению о враждебности должны были удивиться. Но никого это не трогает.

По розыску пропавших? Сейчас готовится большое совещание именно по розыску граждан. У нас в процентном отношении граждан меньше пропадает, чем, скажем, в Польше. На территории нашей страны не пропал ни один поляк, а на территории Польши 17 наших граждан пропали без вести. В том числе и актер Бубашкин. Надо во всем разобраться спокойно, без крика. Надо подумать, что можно сделать, чтобы людей находить.

**— Может, поэтому и есть смысл выступить на собрании?**

— Я и выступаю, и выступлю. Я уже не раз выступал на эту тему. Весь вопрос в том, что не надо искать в этом политики, а ставить вопрос так, что милиция должна искать всех граждан. Надо научить этих людей активно работать в розыске. Концентрировать внимание: отдайте нам Гончара и не ищите Петрова, которого, может, тоже трое детей ждут, — это просто уже надоело. Любого гражданина надо искать и искать по-настоящему. Вот этого нам надо добиться.

**Анатолий Васильевич КАБАНЕЦ,**
**председатель Гомельского областного объединения профсоюзов:**

1. — Это не оккупация, а просто вхождение в состав России. Если так, то почему бы и нет? Я же не свое личное мнение выражаю. Как мои члены профсоюза решат, так и будет. Накануне собрания я соберу членов организации, руководителей и узнаю их мнение по этому вопросу.

2. — Я не готов сейчас отвечать на ваши вопросы. Мне надо ознакомиться с программой социально-экономического развития Республики Беларусь на 2001—2005 годы. Ее надо посмотреть, прочесть, тогда я и смогу ответить...

Не будет там моего выступления. Откуда вы взяли, что я собираюсь на собрании выступать? Просто меня избрали делегатом, но никто мне не говорил, что я буду выступать.

3. — Мы в области все собирались, городские депутаты выдвигали свои предложения по заработной плате. Больше никаких инициатив я выдвигать не собираюсь. Только эти.

**Мария ЭЙСМОНТ, Александр СИЛИЧ.**

### От редакции

Мы благодарны делегатам "народного собрания", которые согласились ответить на наши вопросы. Уважаем их мнение, но не можем не обратить внимания на некоторые моменты.

Судя по всему, программа собрания расписана от "а" до "я", избраны нужные делегаты, готовы списки выступающих. Все будет проходить по знакомому с советских времен сценарию: выступили, одобрили, проголосовали... И никакой импровизации, никакого отступления от утвержденного и одобренного властью сценария. Иначе как понимать слова Анатолия Кабанца: *"Откуда вы взяли, что я собираюсь выступать? Просто меня избрали делегатом, но никто мне не говорил, что я буду выступать"?*

Огорчает нас и вот что. В стране исчезают известные люди, политики, а делегаты говорят: "Я в эти дела не вмешиваюсь". А кто должен вмешиваться?.. А как относиться к заявлению Николая Чергинца: "Концентрировать внимание: отдайте нам Гончара и не ищите Петрова, которого, может, тоже трое детей ждут, — это просто уже надоело". Что надоело? То, что "Народная воля" в отличие от властей постоянно заостряет внимание на том, что в стране пропадают известные политики? Мы тоже переживаем за всех исчезнувших и пропавших, и не делаем различия. Но мы хотим знать правду и о судьбе Юрия Захаренко, и Виктора Гончара, и Анатолия Красовского, и Дмитрия Завадского.

Словом, страна переживает не лучшие времена. Если хотите, страна в опасности. И это рефреном должно звучать на собрании...

## НЕЗАЛЕЖНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

# АПОШНІ КІЙ

### Бяздарная палітычная дзейнасць разбурае эканоміку і сацыяльную сферу

**Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар**

Уся эканоміка ў рэцэсіі (сцісканні). Пасля кароткага часу штучнага росту за кошт абаротнага капіталу, недаплаты заробкаў і росту знешняй і ўнутранай запазычанасці (празмернай закрэдытаванасці) у эканамічным цыкле пачалася фаза спаду і стагнацыі.

Адміністрацыйныя метады ажыўлення эканомікі не даюць чаканых вынікаў. Ды і што яны могуць даць, калі з надыходам вясны прамысловыя прадпрыемствы ды іншыя суб'екты гаспадарання прама ці ўскосна пад адміністрацыйным ціскам пачалі выдзяляць агромністыя грашовыя і матэрыяльныя рэсурсы (дзесяткі мільярдаў рублёў) у казну дзеля таго, каб было засеяна поле. Які ўраджай будзе сабраны — гэта ад прамысловых прадпрыемстваў і камерцыйных банкаў не залежыць. Але фінансаваць веснавую сяўбу сектар рэальнай эканомікі на шкоду сабе змушаны. Дык пра які эканамічны рост можа ісці гаворка, калі ў жабрака адбіраюць нават апошні кій?

Вядомы навуковец В.Арцішэўскі ў адной са сваіх распрацовак піша: "Калі ў сацыяльнай ды эканамічнай сферах назіраецца застой, тым болей дэградацыя, то гэта выніковая прыкмета няўмелай, некампетэнтнай палітычнай дзейнасці, якая разбурае эканоміку, а значыць, і сацыяльную сферу. Перамена сітуацыі магчыма толькі праз адстаўку некампетэнтнага прэзідэнта".

Аб некампетэнтнасці прэзідэнта і яго ўрада сведчаць шматлікія факты. Вось адзін з іх. Як вядома, эканамісты даўно адкрылі аксіёму, што калі ў неваенны час колькасць войска перавышае адзін працэнт ад усяго насельніцтва, то эканоміка не можа забяспечыць дабрабыт краіны. А што маем мы, ці ўлічваецца ў Беларусі гэта бясспрэчная ісціна?

У Беларусі само войска, а таксама ўнутраныя войскі, КДБ, адмысловыя ўзброеныя часткі, спецназ, міліцыянеры ды іншыя ўзброеныя службы дасягнулі 300 тысяч чалавек, што перавышае тры працэнты ад усяго насельніцтва краіны. Калі да гэтага дадаць людзей, якія вырабляюць зброю і вайсковае аснашчэнне, то атрымаецца, што са сферы вытворчасці адцягваецца звыш аднаго мільёна чалавек.

Новы прэзідэнт, хто б ні быў абраны, будзе змушаны не меней як у тры разы скараціць войска і людзей пры зброі, а адпаведна і ўсе непамерныя выдаткі на іх утрыманне. Невыпадкова ў суседняй Расіі пачалася ваенная рэформа, адным з накірункаў якой з'яўляецца рэзкае скарачэнне колькасці вайскоўцаў і тэрміну абавязковай службы.

Нядаўна прыязджаў у Беларусь міністр абароны Расіі Сяргей Іваноў. Размова з міністрам абароны Беларусі генералам Мальцавым ішла пра тое, што і ў Беларусі будзе праведзена вайсковая рэформа пры абавязковым скарачэнні колькасці вайскоўцаў. Дык навошта было так доўга чакаць? У тых краінах, дзе лічацца з прынцыпамі эканамічнай навукі і ў мірны час не дапускаюць росту вайсковага кантынгенту звыш аптымальных памераў, усе рэсурсы скіроўваюцца на ўздым цывільнай эканомікі. Узорам такога падыходу можа быць размеркавальная палітыка ў Японіі, Германіі ды іншых краінах. Напрыклад, у працвітаючай Германіі ўсяго пры зброі знаходзіцца 300—500 тысяч чалавек, альбо толькі 0,4—0,6% ад усяго насельніцтва. Усе астатнія працаздольныя працуюць у сферы рэальнай эканомікі. Адсюль і эканамічнае працвітанне.

Сем год таму, ведучы выбарчую кампанію, А.Лукашэнка абяцаў не толькі запусціць (у добрым сэнсе слова) фабрыкі і заводы, але і значна скараціць армію чыноўнікаў. Слова сваё не стрымаў. Прамысловасць, асабліва сельская гаспадарка, запушчаны далей няма куды, а апарат чынавенства рос і расце як на дражджах. Па падліках аналітыкаў, у дадзены час колькасць чыноўнікаў дасягае аднаго мільёна чалавек. Гэта ў дватры разы болей, чым патрабуецца для нармальнай дзейнасці выканаўчай і ўпраўленчай улады пры прыватнай уласнасці.

З чым пойдуць на выбары А.Лукашэнка і яго каманда, калі ў краіне проста падрэзаны, абмежаваны і прыдушаны самы творчы, рэфармацыйны і прагрэсіўны ва ўсіх краінах свету прадпрымальніцкі сектар эканомікі? І наогул, што чакае нашу эканоміку без гэтага сектара? Рухаючай сілай прадпрымальніцтва з'яўляецца дробны бізнес. Чым болей людзей занята дробным бізнесам, тым багацейшая краіна. Пераход ад краіны з меншай колькасцю людзей, занятых у сферы дробнага бізнесу, да большай колькасці такіх занятых у названых краінах ёсць адначасова пераход ад меней багатых да болей багатых краін.

Зараз у Беларусі на тысячу чалавек насельніцтва ёсць толькі 2,5 дробныя прадпрыемствы, у суседняй Літве — 25, у Польшчы — 35, а ў ЗША — 70. Зразумела, Беларусь стала самай беднай краінай у вызначальнай ступені таму, што з боку ўлад пастаянна і няўхільна, эканамічна і адміністрацыйна абмяжоўваецца дзейнасць прадпрымальнікаў, якія рухаюць эканамічны прагрэс ва ўсім свеце.

У Злучаных Штатах Амерыкі штогод пачынаюць камерцыйную справу дзесь 900 тысяч чалавек. Гэта імклівыя, мэтанакіраваныя людзі. Каб пачаць свой бізнес і выжыць у ім, яны бясконца шукаюць новыя формы і метады вытворчасці, настойліва ўкараняюць найноўшыя дасягненні навукі і тэхнікі. Можа, толькі 10 працэнтаў піянераў вытворчасці замацоўваюцца ў абраным бізнесе. Астатнія пачынаюць зноў і зноў.

Менавіта на дробным і сярэднім бізнесе ў ЗША і іншых краінах свету трымаецца і развіваецца НТР. А ў Рэспубліцы Беларусь, жах сказаць, ідзе няўхільнае скарачэнне прадпрымальніцкага сектара. Толькі ў Мінску колькасць камерцыйных структур за апошнія два гады скарацілася амаль на 15 працэнтаў. Уводзяцца ўсё новыя і новыя гаспадарчыя перарэгістрацыі. У Мінску не прайшлі новую перарэгістрацыю 47 працэнтаў суб'ектаў гаспадарання. Небывалы ўціск і выцясненне прадпрымальнікаў з рэальнай эканомікі адбываецца нягледзячы на тое, што ён моцна сілкуе дзяржаўны бюджэт. У гарадскую казну Мінска прадпрымальнікі ўнеслі летась 245 мільярдаў рублёў. І таму ніяк нельга зразумець, чаму ўлады сякуць галовы курам, якія нясуць залатыя яйкі.

## ОФИЦИАЛЬНО

# ...Ввиду отсутствия необходимости

**Пресс-служба Министерства иностранных дел Республики Беларусь распространила следующее сообщение:**

В газете "Народная воля" от 21 апреля с.г. было опубликовано заявление Объединенной гражданской партии о якобы имеющих место переговорах белорусской стороны с рядом европейских государств о закупке больших партий говядины по демпинговым ценам.

В этой связи Министерство иностранных дел информирует о следующем.

По линии органов государственного управления Республики Беларусь переговоры по поводу закупок мяса в европейских странах не проводились и в настоящее время не ведутся.

Соглашение с Министерством сельского хозяйства Чехии о поставках говядины в Республику Беларусь не подписывалось и даже не прорабатывалось ввиду отсутствия необходимости.

Сельское хозяйство Беларуси полностью удовлетворяет потребность внутреннего рынка в мясе и молоке. Более того, в 2000 году на экспорт было поставлено 11,9 тыс.тонн свинины и 5,4 тыс.тонн говядины, что составляет около 12 процентов от произведенных объемов мяса. За первый квартал текущего года поставки мяса свинины, говядины, птицы возросли по сравнению с аналогичным периодом прошлого года почти в два раза.

Согласно Закону "О ветеринарном деле Республики Беларусь", на ветеринарную службу Минсельхозпрода Республики Беларусь возложено согласование заявлений на ввоз продукции животноводства и кормов для животных, основываясь на текущей эпизоотической ситуации страны-поставщика, с предоставлением необходимых документов, подтверждающих происхождение товара.

Министерство иностранных дел обращает внимание на то, что информация, распространенная Объединенной гражданской партией, но указанной проблематике является недостоверной.

## Надвор'е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, месцамі па паўднёва-заходняй частцы — кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўднёва-заходні і паўднёвы, 3—8 м/с, пры навальніцах парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ў Гродне — +19...+21, Брэсце, Віцебску — +20...+22, Мінску, Магілёве — +21...+23, Гомелі — +22...+24.

У наступныя двое сутак: 17-га ўначы — кароткачасовыя дажджы; удзень без ападкаў. 18-га па паўночна-заходняй частцы — кароткачасовыя навальнічныя дажджы. Вецер паўднёва-заходні, 4—9 м/с, пры навальніцах парывы да 15 м/с. Тэмпература паветра 17-га ўначы +7...+12, удзень — +19...+24. 18-га ўначы — +11...+16, удзень — +22...+27.

НАВІНЫ

## Інтэрнет-зладзеі жывуць у Беларусі

**Спецыяльнае падраздзяленне МУС Беларусі па барацьбе са злачынствамі ў сферы высокіх тэхналогій вядзе вышук злачынцаў, якія маюць дачыненне да выкрадання з Інтэрнет-магазінаў у ЗША і перапраўкі ў Расію партыі аптычных прыцэлаў, бінокляў начнога бачання і іншых тавараў на суму звыш 8 тысяч долараў.**

Паведамленне аб фактах крадзяжу паступіла ў МУС 19 сакавіка з пасольства Злучаных Штатаў праз нацыянальнае бюро Інтэрпола. Праверкай было ўстаноўлена, што грузы паступалі ў адрас жыхароў Мінска. Падчас вывучэння суправаджальных дакументаў на "Белпошце" высветлілася, што яшчэ раней у Мінск прыходзіла 18 буйнагабарытных пасылак з ЗША. Атрымальнікамі аказаліся падстаўныя асобы.

Устаноўлены адзін з арганізатараў і непасрэдных заказчыкаў грузаў, якія збываліся па наладжаным канале ў Расію. На кватэрах некаторых удзельнікаў злачыннай групы былі праведзены вобыскі. Супрацоўнікі міліцыі знайшлі і канфіскавалі камп'ютэрную тэхніку, лічбавую аўдыё- і відэатэхніку, перыферыйнае абсталяванне для аўтаномнай работы ў Інтэрнеце, газавую зброю, сістэму "хатні кінатэатр", адзенне і шмат іншага. Усё выкрадзенае ацэньваецца ў дзесяткі тысяч долараў ЗША.

## Лётна-тактычныя вучэнні

**14 мая на дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь пачаліся лётна-тактычныя вучэнні верталётнай эскадрыллі пагранічных войскаў.**

Верталётчыкі па адным і ў складзе групы будуць адпрацоўваць комплекс задач у мэтах аховы мяжы, у тым ліку пытанні ўзаемадзеяння з наземнымі сіламі войскаў. Верталётная эскадрылля базіруецца ў Паставах (Віцебская вобласць), аднак "працаваць" яна будзе па ўсім перыметры дзяржаўнай мяжы: пасадачныя пляцоўкі для верталётаў ёсць у кожным пагранічным атрадзе.

На які час разлічаны лётна-тактычныя вучэнні, у прэс-цэнтры Дзяржкамітэта не паведамілі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## "Заходні Буг" 10 год на варце

**Дзесяцігоддзе з дня стварэння адзначае найбуйнейшая мытня краіны "Заходні Буг".**

Пасля распаду СССР яна была выдзелена са складу Брэсцкай мытні. Спачатку ў "Заходнім Бугу" працавалі два аўтапераходы — "Варшаўскі мост" і "Казловічы". Зараз у складзе мытні — сем пагранічных і тры ўнутраныя пасты.

Штосутачна праз мытню ў розных напрамках праходзяць звыш 7 тысяч адзінак транспарту і звыш 20 тысяч пасажыраў. Праз "Заходні Буг" праходзяць 51 працэнт усіх экспартна-імпартных грузаў Рэспублікі Беларусь, 53 працэнты ўсіх транзітных грузаў і 31 працэнт усяго пасажырапатоку. На мытні працуюць больш за 500 чалавек. Усе дзесяць гадоў калектыў узначальвае генерал мытнай службы Вячаслаў Асінцаў.

За 4 месяцы бягучага года праз "Заходні Буг" праследавалі звыш 2 мільёнаў чалавек, звыш 752 тысяч адзінак транспарту. У бюджэт дзяржавы ў 2001 годзе пералічана 14,9 мільярда рублёў: 11,7 мільярда з гэтай сумы атрыманы пры збіранні мытных плацяжоў, 1,2 мільярда — ад рэалізацыі канфіскаваных тавараў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

# 1. ІПАСТАСІ ЧЫРВОНАГА МАІСЕЯ

**Васіль ГРОДНІКАЎ**

## "Мы не будзем сытна есці..."

Споўнілася дзесяць год з дня выхаду ў свет артыкула дырэктара саўгаса "Гарадзец" Шклоўскага раёна Аляксандра Лукашэнкі "Вялікі перадзел?". Ён быў надрукаваны ў часопісе "Беларусь" (№3, 1991 г.).

У згаданым артыкуле А.Лукашэнка бярэ быка за рогі ледзь не з першых радкоў. **"Ад самай страшнай бяды — абязлічкі — зямлю можа выратаваць толькі гаспадар, які ведае, што яна належыць яму і яго праца будзе спакваля ацэнена. І мне было страшна (а найбольш усё ж — горка) слухаць, як сур'ёзныя быццам бы людзі страшылі — варта, маўляў, дазволіць куплю-продаж...".**

Некаторыя могуць не паверыць, што гэтак некалі думаў і пісаў сённяшні прэзідэнт. Дарэчы, у той недалёкі час так думаў шмат хто, апроч камуністаў. Бальшавікі і сёння па-ранейшаму настойліва выступаюць "за аднаўленне права выключнай уласнасці дзяржавы на зямлю".

Куды ж падзеліся шматлікія прыхільнікі перадачы зямлі яе гаспадару, селяніну? Калі сказаць прама, то "былыя", як заўсёды, не мелі цвёрдай пазіцыі і па звычцы ці завядзёнцы калыхаліся разам з лініяй мацнейшага (але не заўсёды разумнейшага). Прыйшоўшы ва ўладу, А.Лукашэнка перадумаў і захацеў, каб усё было так, як пры бальшавіках. І хіснуўся ў бок. Так ужо заведзена ў нас, у славян: халуі, чэрнь, дваравыя людзі і набліжаныя да "двара", натапырыўшы вушы на "манаршую" хвалю і гледзячы ў рот свайму кармільцу, хуценька хіснуліся ўсе разам і галасам аднаго ўладаноснага чалавека запелі алілуя новым думкам свайго патрона. І цяпер уся чынавенская раць па той жа звычцы паўтарае, як папугаі, лозунгі і заклікі ўжо сённяшняга прэзідэнта і тым самым лашчыць слых вярхоўнаму галоўнакамандуючаму ўсёй гэтай рацыю халуёў-прыстасаванцаў. Хто пяе па звычцы, хто ад страху за сваю скуру. Яно так: быў бы хлеб, а мышы знойдуцца...

А ў тыя часы дырэктар саўгаса А.Лукашэнка разважаў па-інакшаму (вам рашаць: шчыра ці прытворліва), знаходзячыся ў эпіцэнтры катастрофы сацыялістычнай канцэпцыі развіцця беларускай вёскі: існуюць **"легіёны чыноўнікаў, лжэнавукоўцаў, для якіх зямля — гэта ўлада, бязбеднае існаванне. Аддаць зямлю сапраўдным гаспадарам яе — значыць прыблізіць свой палітычны крах. Вось і ўчапілася гэтая баявая раць за яе, прыкрываючыся інтарэсамі людзей і клопатамі пра іх".**

**"Я ўпэўнены: пакуль мы не замацуем права чалавека валодаць зямлёю і пладамі яе — мы не будзем сытна есці. І дзяцей сваіх не накормім..."**

Асобна хачу засяродзіць вашу ўвагу на наступных радках:

**"Рыхтуючы дакумент** (размова ідзе пра "Кодэкс Беларускай ССР аб зямлі". — **В.Г.**), **планавалі, што ён дапаможа правярнуць існуючую на вёсцы прыгонніцкую феадальную сістэму. Селянін жа сёння заняволены не проста эканамічна. Камандна-адміністрацыйная сістэма кіравання сельскай гаспадаркай прымушае яго нават думаць так, як хоча кіраўнік... Яны да гэтага часу баяцца выказаць свой пункт гледжання, асцерагаючыся рэпрэсій з боку, як яны нас называюць, "удзельных князёў і феадалаў". Гэта страшная, ненармальная сістэма, якая стварыла армію гультаёў, лайдакоў, падзёншчыкаў, якія стрымліваюць імкненне працавітай часткі сялянства да высокапрадукцыйнай працы... Але я не трачу надзеі: праз два-тры гады нам прыйдзецца вярнуцца да гэтага пытання. Жыццё прымусіць!"**

Ці зможаце вы па гэтых словах пазнаць сённяшняга прэзідэнта? Што ж здарылася з сельскім кіраўніком, які, здавалася б, "зубы з'еў" на калгасных праблемах? Я мяркую, што двурушнасць, папулізм, звычайны падман сваіх выбаршчыкаў, нарэшце, усяго беларускага народа, узялі верх. Дзіва што: на торзе кожны конь танцуе!

**"У рэшце рэшт трэба прадставіць кожнаму жадаючаму працаваць на зямлі права ўласнасці на яе. А ці выкарыстае ён яго і як павядзе справу — яго воля. Інакш ад нашых "клопатаў" аб ім ён, селянін, хутка зусім прападзе".**

Прайшло дзесяць год, а селянін, які, лічы, стопрацэнтна прагаласаваў за Лукашэнку на тых выбарах, спадзеючыся на "рубаху-парня", сядзіць сёння ў тым жа г... што і пры Лукашэнку—дырэктары саўгаса. А ўсё адбылося так, як і вучылі продкі: да аглобляў коськаюць, а ў аглоблях пугі даюць. Вось і рабіце выснову...

## Фундамент дзяржавы — балота

Няма ахвоты каменціраваць гулкае, але парожняе. Можа, нагадаць вам, як гэтак жа палымяна і такесама быццам пераканаўча дзеліцца сваімі новымі думкамі Лукашэнка як прэзідэнт?

1995 год. "Мы выбралі свой уласны, беларускі шлях рэформаў. Гэта шматукладная эканоміка ў вёсцы, яе паступовае рэфармаванне без неабдуманай ломкі таго, што працуе і дае вынікі" ("Звязда", 21 лютага).

Трошкі ніжэй, там жа: "Але пры гэтым неабходна ўсім усвядоміць, што мы не прыхільнікі разбурэнняў калгасна-саўгаснай сістэмы. Гэта "палітыкі з асфальту" вядуць барацьбу з калектыўнымі гаспадаркамі (*ён пра сябе, колішняга, ці што?* — **В.Г.**), спрабуючы іх не толькі разбурыць, але і ліквідаваць буйную вытворчасць".

І далей: "Сельская гаспадарка — гэта тое рашаючае звяно, выцягнуўшы якое, мы сапраўды можам вывесці з прарыву ўсю нашу эканоміку". Калі гэта сапраўды так, то мне трэба тэрмінова да доктара. Я ж, стары дурань, увесь час думаў і нават быў упэўнены ў адваротным. А бачыш ты, па-прэзідэнцку інакш. Усё "мудра і па-навуковаму". Выходзіць, правільна папярэджваюць: век жыві — век вучыся!..

А ўжо ў канцы 1995 года А.Лукашэнка выспеў для выказвання важнейшай, на яго думку, палітычнай высновы. У сельскагаспадарчай акадэміі, якую ён закончыў завочна, выступіў на яе юбілеі і "парадаваў" сваіх настаўнікаў — дактароў навук і прафесараў, а таксама маладзенькіх студэнтаў-галапупікаў:

"Я прама гавару аб грамадстве рыначнага сацыялізму. Пры гэтым мы не збіраемся механічна прымяняць чые-небудзь сацыялістычныя мадэлі. У нашага грамадства свая гісторыя, свае традыцыі, сваё бачанне будучыні. Менавіта яе мы выбіраем".

Вы зразумелі той сэнс, які ўкладзены ў словы "гісторыя", традыцыі", "будучыня"? Калі гаворка ідзе пра сацыялізм, няхай сабе і рынкавы, то ўсё гэта ў нас мае адлік ад 1917 года. Значыць, выбралі граблі, на якія ўжо наступалі! Пэўне, не было з чаго выбіраць. Ды і што тады за каманда была ў прэзідэнта?! Палова разбеглася, а нававбранцы, што падбіраліся па прынцыпе адданасці прэзідэнту, былі так сабе. Абы што. Ласкавае цялятка дзве маткі ссе. Першымі адабральшчыкамі "рынкавага сацыялізму" стаў прафесарска-выкладчыцкі склад акадэміі. На добры толк сівым і лысым вучоным варта было б паставіць свайму былому выпускніку або "незалік", або "нездавальняюча". Аднак, пэўне, няёмка ім было адкрыта прызнаць: брак, панове, недавучылі, недагледзелі! Вучоныя, у якіх не хапіла часу і жадання на асэнсаванне новага палітычна-эканамічнага паняцця, апладысментамі выказалі свой "адабрамс". Адным словам, па габляваным — сякерай!

Праз год, якраз перад пасяўной, у Гродне (пэўне, каб на Захадзе было добра чуваць) на нарадзе па праблемах АПК А.Лукашэнка ўжо "на пальцах" растлумачваў сутнасць "рынкавага сацыялізму": "Апора на калгасы і саўгасы, на кааператывы — гэта не даніна настальгіі па палітычных інстытутах савецкіх часоў, а вынік глыбокага асэнсавання аграрнага вопыту (*во як!* — **В.Г.**), цвярозы эканамічны і тэхналагічны разлік (*?* — **В.Г.**) і ўсвядомлены палітычны выбар. У сучасных умовах трэба не толькі захаваць буйную вытворчасць, але і стварыць умовы для яе дынамічнага развіцця".

Ну што тут скажаш? Сацыялістычнае "шыла" так і прэ з мяшка! Ну, наконт апошняга, г.зн. "стварэння ўмоў для дынамічнага развіцця" калгасаў і саўгасаў, мы ў апошнія гады начуліся пад самую макаўку. Колькі сродкаў было ўбухана ў тую дынаміку, якой на сённяшні дзень яшчэ ніхто не заўважаў?! Штогод мільярды, трыльёны рублёў ляцяць, як у прорву!

І, нарэшце, цвік — да плешкі: "Я хачу, каб мы дакладна засвоілі раз і назаўсёды, чаму мы сёння не можам разбурыць калгасы і саўгасы. Ды таму, што калгас і саўгас сёння — гэта не толькі арганізацыйна-гаспадарчая структура ў вёсцы, гэта і цэнтральная дзяржаўная структура ў вёсцы. (*А вы думалі, што для вытворчасці мяса, малака, збожжа, бульбы?* — **В.Г.**) Калі не будзе калгаса і саўгаса, дзяржава не можа эфектыўна праводзіць сваю палітыку ў вёсцы. Менавіта калгас і саўгас... з'яўляецца апорай дзяржаўнай улады ў вёсцы".

Апора на тое, што даўно ляжыць на баку і гіне на нашых вачах?! Дзяўчыне — вяселле, а кароўцы — смерць...

І апошні камандны голас прэзідэнта: "Спрэчкі аб тым, быць буйным гаспадаркам або не быць, павінны быць раз і назаўсёды спынены". (З выступлення ў Гродне 5 сакавіка 1998 г.)

Вось так. Ні больш і ні менш. А то раскрычаліся тут. У нас жа адзін палітык і адзін гаспадар! Бачыш ты, вольніцы ім захацелася!

## Сеем грошы — узыдзе "ліпа"

А на пачатку гэтага года А.Лукашэнка гаварыў пра тое, што быццам бы дзяржава больш не будзе падтрымліваць стратныя гаспадаркі. Маўляў, няхай самі выбіраюцца з крызісу. 25 працэнтаў вельмі ўжо захудалых гаспадарак возьмуць торбы ў рукі і пойдуць у свет. Па-лукашэнкаўску гэта значыць — у рынак. Праўда, калі памятаеце, і раней Лукашэнка страшыў такімі рашучымі мерамі, але калгасы і саўгасы, як тыя сабакі пад дзвярыма, чакалі ад "міласцівага пана" падачкі. А цяпер ён, напэўна, рашыўся на ўчынак, дастойны Тараса Бульбы: я цябе, сынку, парадзіў, я цябе і са свету зжыву!

Але, як вядома, на язык няма прывязі. Пра стан сённяшняй вёскі кажуць і пішуць шмат. Ды толькі звярніце ўвагу на такую акалічнасць. Двое спыніліся ля лужыны: адзін бачыць лужыну, другі — зоркі ў ёй. Гэта ў сэнсе паэзіі. Ну, а калі ў сэнсе жыццёвага (а не сацыялістычнага) рэалізму, то, скажам, едучы з Краснага ў Чысць, адны бачаць ля Ракуцёўшчыны спарахнелыя сцены карпусоў свінафермы, а я ўспамінаю, як там яшчэ нядаўна вішчэла і рохкала свінячае царства. З'елі ферму. Пайшла на зарплату. І цяпер адны ўспрымаюць ферму як помнік савецкага аграрнага дойлідства, а я — як факт сённяшняй калгаснай рэчаіснасці.

А ў паляводстве? У карыстанні сялян і фермераў 16 працэнтаў зямлі, а збіраюць яны больш за палову таго, што вырошчваюць калгасы і саўгасы.

На сёлетнюю пасяўную краіна мае на 50 працэнтаў менш мінеральных угнаенняў, чым летась. А іх і ў мінулым годзе не густа было. З-за адсутнасці паліва, з-за сапсаванай і састарэлай тэхнікі не вывозілася арганіка, не хапае і сродкаў хімічнай аховы раслін...

Кажуць, што нядаўна прэзідэнт падпісаў дакумент па таварным крэдыце на паліва — усяго 20 тысяч тон на ўсе калгасы і саўгасы. На 2—3 дні работы. Яшчэ на 2—3 дні сяўбы назбіраюць калгасы, здаўшы малако, рагулек на мяса ды сёе-тое выменяюць на бартэр. І ўсё!

Не, не ўсё. Нашу сацыялістычную сельскую гаспадарку заўсёды выручала шапка. Вось і зараз аб'яўлены аж тры суботнікі, выручаныя грошы ад якіх пойдуць на сяўбу. Пайшлі "добраахвотныя" ахвяраванні ад прамысловых прадпрыемстваў, дзяржаўных і камерцыйных банкаў, юрыдычных асоб і прыватных гандляроў, нават замежных фірм! Дзяржава сёлета пасее не менш як 1,5 трыльёна "зайчыкаў". Ці не сядзе на дно ад такога "шэфства" над калгасамі наша эканоміка? Мы ж у адным месцы лапім, у другім рвецца. Няўжо прэзідэнт гэтага не разумее? Усё адбываецца, як у той прыказцы: кашляйце, паночак, вам можна...

Улады прывыклі сеяць грашыма, як насеннем. А вось ці ўрастуць яны хлебнай нівай, яшчэ няведама.

На нядаўняй нарадзе па праблемах АПК прэзідэнт, выхваляючыся вынікамі перавагі калгаснага ладу, заявіў, што кіраўніцтва краінай зробіць усё, каб сёлетняй восенню мы не пазналі сельскую гаспадарку. А што вы думаеце, усё можа быць. Вясной пасеем грошы, восенню збяром "ліпу".

І як апафеоз упартасці, вяршыні цынізму, зашоранасці і хлусні на той нарадзе гучалі такія словы: "Шэсць гадоў назад беларускі народ (?!) усвядомлена і правільна (?) выбраў доўгатэрміновую стратэгію (!) развіцця краіны, шмат (?) зрабіў для яе рэалізацыі". Але як шрэнь на цёмным небе прамільгнулі словы, пад якімі магу падпісацца і я: "Таго, што зроблена, недастаткова. Няма дынамікі, упэўненасці...".

"Апошнія 10 год сталі сур'ёзным выпрабаваннем на трываласць для калгасна-саўгаснага ладу... Вытворчасць сельгаспрадукцыі скарацілася напалавіну... Палова калгасаў і саўгасаў традыцыйна стратныя, даўгі іх перайшлі мяжу ў паўтрыльёна рублёў".

...Ва ўсіх рэгіёнах краіны заканчваецца сяўба. Шмат у каго з вялікіх і малых начальнікаў пасівелі галовы: няма паліва, няма чым і на чым сеяць. Жонкі начальнікаў употай сушаць сухары з ураджаю мінулага года. Дзіва што: ад сумы і турмы не заракайся. Прэзідэнт пра гэта напомніў і на апошняй селектарнай нарадзе. У гэта "вертыкальшчыкі" вераць, як ніколі. Наперадзе не толькі збор ураджаю, але і збор галасоў выбаршчыкаў. Сёння адзін начальнік, зняты з пасады прэзідэнта, прыносіць яму добрую тысячу галасоў. Пасаджаны за краты — да 5 тысяч. А калі адменяць мараторый на смяротную кару — перамогу прэзідэнту прынясуць на талерачцы з блакітнымі беражкамі...

Як бы там ні было, а засеюць сёлета ўсе сто працэнтаў палетказ. Убяруць, праўда, як заўсёды, працэнтаў 60—70. А тады зноў стане ціха, да новых венікаў. А рэформы ў сельскай гаспадарцы намячаюцца на святыя ніколі. Дажыць бы!

***

Спадзяюся, я падрыхтаваў вас да больш сур'ёзнай размовы пра тое, што трэба зрабіць, каб пазбегнуць прароцтва А.Лукашэнкі (дырэктара саўгаса): "Мы не будзем сытна есці. І дзяцей сваіх не накормім".

*в.Мазалі Маладзечанскага раёна.*

Александра Шатских (на снимке) — российский исследователь творчества знаменитых художников, наших земляков Марка Шагала и Казимира Малевича. Она 10 лет работала над монографией о них. Презентация книги А.Шатских "Витебск. Жизнь искусства. 1917—1922" состоялась именно в Витебске.

**Фото Александра ХИТРОВА, БелТА.**

# Свобода и деньги притягивают молодых

***Каждое лето незаметно выросшие до уровня абитуриента бывшие школьники штурмуют своими знаниями и финансовыми возможностями училища, техникумы и вузы. Но, к великому сожалению, не каждому из них гарантирована победа (этому препятствует естественный отбор на экзаменах).***

***Затерявшись в толпе неудачников, не надо падать духом. Как говорится, терпенье и труд все перетрут. При сильном желании и необходимом напоре вы найдете себе работу. Как жизнерадостная Наталия, которая работает в видеопрокате в минском микрорайоне Уручье. Небольшая каморка, огромным достоянием которой является маленький черно-белый телевизор, но без видеомагнитофона!***

*Наталья в своем киоске.*

**— Натали, ты устроилась на работу? Сразу же после школы?**

— Да. Не поступив, побежала на биржу труда, где можно было записаться на курсы поваров, продавцов-кассиров и так далее. Но тогда набор уже состоялся, и мне пообещали, что я буду зачислена в группу следующего месяца. Чтобы не терять время, нашла работу в видеопрокате. Через месяц пришла на биржу и узнала, что в списках группы меня нет. Объяснили это тем, что неизвестно по какой причине меня забыли внести в компьютер.

**— А больше тебе ничего не предложили?**

— Пособие по безработице. Но за ту сумму многие и я в их числе, не хотят идти на общественные работы. Это в месяц несколько дней. Например, дворником.

**— А на рынке не пробовала устроиться?**

— Многим продавцам на рынке не начисляют трудовой стаж. А работать в холостую зачем? Надо еще и пенсию заработать.

**— Работать в твоей каморке не надоедает?**

— Бывает. Особенно, когда четыре часа сидишь и ничего не делаешь. С утра почти никто не приходит. Но если хочешь быть при деньгах — работай.

**— Хочешь поступать этим летом?**

— Нет. Я поняла, что мне это не нужно.

**— Почему?**

— Я считаю, что высшее образование мне не нужно. Институт — потерянные пять лет, за которые я могу заработать деньги.

**— Этот бизнес, деньги, свобода затягивают?**

— Еще как! Чем больше денег, тем больше их хочется. Больше получаешь, больше тратишь, потребности растут, и денег все время не хватает...

Каждый год бизнес затягивает все новых и новых людей, которые, возможно, находят в нем свое счастье, а оно заключается в свободе и деньгах. Юные бизнесмены, подумайте: может, образование вам все же необходимо?

В любом случае, желаю вам, юные бизнесмены, удачи в работе, сговорчивых клиентов и необходимого количества денег.

**Дарья ГАВРИЛОВА,**
**студентка-журналистка.**

Открытым текстом

# ТЕЛЕЧУШЬ

Пятого мая, в старый "День печати" по БТ выступили представители самых "чэсных" газет. А как известно, кто платит, тот и заказывает. И, как полагается в таких случаях, дружно заклеймили оппозиционную прессу, которая-де давно сидит "на игле" у Запада и которую читают только больные на голову люди.

Передача была организована с явным идеологическим подтекстом, поскольку на ней был представлен лишь "красный цвет" официальной (то бишь государственной) агитации и пропаганды: даже для вида, для проформы т.Чикин и К° не удосужились пригласить на передачу **хотя бы одного независимого журналиста либо редактора оппозиционного издания.** Будто они и не граждане Беларуси, а какие-нибудь "нон-грата" или забугорные нелегалы, тайно проникшие в страну для подрывной деятельности! В таком случае позволительно спросить у "всенародно избранного", у нашего Конституционного суда, "нацсхода", Генпрокуратуры и прочих надзирающих, контролирующих и защищающих нас, белорусских граждан, органов: почему наше доблестное отечественное телевидение сегодня называется **"национальным", "белорусским"?** Не логичнее ли в такой ситуации назвать наш "Первый национальный телеканал" короче, современней и выразительней: к примеру — "Президент-ТВ", "ЛАГ-ТВ", "Лук-медиа" или что-то в этом роде? Ведь кроме лукашенковской точки зрения на все происходящее вокруг нас, иной, АЛЬТЕРНАТИВНОЙ, на БТ не существует. Зачем же пудрить мозги всей нации и всему мировому сообществу да еще называть нынешний режим демократичнее самой Франции вместе с Великобританией?

Когда я читаю в "честных" газетах, что "Беларусь по темпам экономического роста занимает первое место в мире" или статью Макашова "о жидах", или "публицистику" о том, что А.Лукашенко — "политик с развитым интеллектом, гибким мышлением, отличной оперативной памятью, президент-романтик, борющийся за воплощение народной мечты о справедливости" и т.д., и т.п. — я убеждаюсь, что в этих самых "честных" газетах укореняется не журналистика с публицистикой, а постыдная ПРЕССТИТУЦИЯ...

Вот почему в наших "честных" газетах нет общественно значимых, интересных широкому кругу читателей публикаций на злобу дня, с анализом причин застоя в экономике, коллапса в сельском хозяйстве, перманентного обнищания народа...

Вот почему и телепередача, о которой веду речь, вызывала ощущение в среде ее участников дичайшего непрофессионализма, дремучего дилетантства, переходящих в легкую степень устойчивого маразма. Некий "публицист" из "Народной газеты" весьма доверительно поведал телезрителям о том, что он занимался подписной кампанией на селе и что сельчане-хуторяне ему в один голос заявляли буквально следующее: неча нам, простолюдинам, разные страсти-мордасти в газетах разводить, про политику разную да про экономику на полосах рассказывать, как это делает "незалежная" пресса: нам, дескать, газетка нужна лишь для того, чтобы печку растопить, телепрограммой на неделю запастись да когда-никогда до ветру сходить...

Исходя из таких вот "запросов" и "пожеланий" трудящихся и пенсионеров села, творческий товарищ из "НГ" предлагает собратьям по перу писать в газетах предельно кратко и без затей. К примеру, глава государства побывал там-то и там-то, сказал то-то и то-то... И, главное — простым, доходчивым языком. Наверное, так вот, как один из его коллег-журналистов выразился на страницах "НГ", разнося в пух и прах телефильм Павла Шеремета "Дикая охота". "И вот запускается в эфир "Дикая охота" Шеремета, где походя звучат фактически оскорбления в адрес белорусского народа... И вот 12 ноября в Минске организуется шествие отвязанного молодняка, требующего перемен. Каких? Ему, по большому счету, знать неинтересно — за него думают иные головы, их направляет иная рука и указующий перст... Так не стоило бы подобных "граждан", жаждущих похлебать западных прелестей, загодя, под белы ручки отправлять восвояси? Почему бы со стороны государства не оказать этим персонам желанную услугу?.. Мы же, подавляющее большинство граждан Беларуси, не скулим, не выпрашиваем объедков, а, сжав зубы (! — **А.О.**), прикусив губу (!!! — **А.О.**), работаем. И живем. Любя свою землю, ценя свою Родину. И верим в ее достойное будущее".

Оказывается, только **"сжав зубы и прикусив губу"**, можно "любить свою Землю", "ценить свою Родину" и "верить в ее достойное будущее". А если ты работаешь, к примеру, на стройке, приоткрыв рот или держа в зубах сигарету, а не собственную губу, а тем более, если после работы бежишь не на сверхурочную, не на какую-нибудь "шабашку", а на демонстрацию или митинг, марш протеста — ты уже ублюдок и выродыш, предатель и жалкий космополит, агент шести иностранных разведок и "собачья голова"... Как нам все это знакомо!

Архиважное открытие в смысле особенностей современной журналистики сделал в той телепередаче представитель газеты "Республика". Оказывается, труд журналиста, как и газета в целом — это товар, и все это должно достойно продаваться. И любая газета обязательно кому-то служит. В том числе и "Народная воля". Выступающий с удивлением и не без зависти отметил, что эта самая "Народная воля", как ни странно, успешно продается в киосках, не залеживается. Но все это происходит лишь потому, что на страницах газеты **слишком много эмоций...**

Во как! Выходит, надо писать в газете отстраненно-равнодушно, спрятав эмоции куда подальше либо оставив их дома. С холодным сердцем и таким же замороженным умом. И о нищенских пенсиях, и о мизерных зарплатах, и о беспредельно высоких ценах, о безмозглой, антинародной политике режима, повальном пьянстве, уникальном цинизме и невежестве нынешней молодежи, унылой серости БТ, застое в литературе, в музыке, театральном, изобразительном искусстве, произволе силовых структур, уникальной ангажированности судов и прокуратур... Выходит, всенародная популярность, к примеру, публицистики Виктора Дашука на страницах "Народной воли" или необычайная проникновенность стихов Нила Гилевича стали возможны лишь благодаря безудержной и безграничной эмоциональности этих художников, творцов? Да как же можно в зрелом возрасте пороть подобную чушь?! Да еще с экрана телевизора! Человек без эмоций, лишенный яркого проявления чувств и переживаний — разве не похож на обыкновенного евнуха? Вряд ли кто станет спорить и с поэтом Евтушенко:

*Бесчувствие — это увечье.*
*Строке доверяю, когда*
*Лицо у нее человечье:*
*Из радости, гнева, стыда...*

Что сказать в заключение? Работайте, граждане-товарищи "чэсныя" журналисты спокойно и "без эмоций" на тех, кто вас купил, и говорите то, что вам разрешат. А о свободе слова мы будем вместе с "Народной волей" беспокоиться без вас. Не в бровь, а в глаз бьет по некоторым "журналистам" из официальных СМИ известный рекламный слоган: "Иногда лучше жевать, чем говорить". А то есть еще хорошая народная пословица: "Заставь дурака богу молиться, он и лоб расшибет"...

**Александр ОЛЬХОВОЙ.**

Художник Владимир Чуглазов, г. Брест.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Наталью Равкову допустили в зал суда, где судят ее мужа

Военный суд над должностными лицами Гомельского медицинского института, обвиняемыми во взяточничестве, длится четыре месяца. Единственный обвиняемый, ради которого дело отдано суду военному, — подполковник Равков "приговорен" к тюремному заключению еще на стадии предварительного следствия: за решеткой офицер находится почти два года.

Судья-полковник продлил начатое прокуратурой досудебное удержание военнослужащего в тюремных условиях и продолжил учиненные следствием козни против этой, чем-то не угодившей властям, семьи. Жене "осужденного" офицера Наталье Равковой военный судья не только не предоставляет свиданий с мужем, но в ходе судебного следствия даже не допускал ее в зал судебного заседания. Лишь через несколько месяцев после начала судебного следствия, а именно 10 мая 2001 года, Владимир Сукач соизволил разрешить Наталье Станиславовне появиться в зале суда.

Официальный предлог данного судейского беспредела — необходимость допросить Н.Равкову в качестве свидетеля. А ведь в соответствии с Конституцией нашего государства как в ходе предварительного, так и в ходе судебного следствия никому не дано права допрашивать жену обвиняемого без ее на то согласия. Военный судья Сукач имел на руках письменные заявления Натальи Равковой и ее адвоката, что свидетельствовать против мужа она не будет.

Напомню, что два года обвиняемый В.Равков — всего лишь обвиняемый. Преступником он пока еще не назван. Однако вот уже 22 месяца с офицером обращаются, как с бандитом-убийцей.

**Валерий ЩУКИН,**
**правозащитник, БХК.**

## Плати за соседа!

Второй год жильцы Партизанского района вынуждены регулярно оплачивать проживание своих соседей, которые отказываются делать это сами. Причины отказа — самые разные, начиная с элементарного нежелания расставаться со своими деньгами, заканчивая, как это ни прискорбно, отсутствием их. Группу неплательщиков (а их 15—20%) составляют алкоголики, чья зарплата уходит на спиртное да мешки под глазами.

ЖЭС-44 в конце месяца не может вывести общую сумму оплаты за жилье. Значит, лишается прогрессивки, а этого работникам ох как не хочется. Потому и приходится хорошенько поломать голову, все ж таки своя рубашка ближе к телу. И ломают, и придумывают такое, что только диву даешься! Понятно, что неплательщиков на улицу не выгонишь — детишек жалко. Да и платить не заставишь — нечем. А вот на соседях можно поэкспериментировать.

Как раз проводилось благоустройство двора: вдоль детской площадки были разбиты дорожки, посажены деревья. Этим и воспользовались жэсовцы. Во всех квиточках появилась новая графа: "Капитальный ремонт", размер оплаты которой составлял 50% от квартплаты. В начале года было 70 рублей, в конце — 250. Вроде бы мелочи, а умножь на оставшиеся 80—85% плательщиков — получится кругленькая сумма. Деньги потекли рекой, угроза снятия прогрессивки исчезла. Людям же объясняют, что деньги идут на благоустройство двора, хотя на самом деле ими покрываются задолженности неплательщиков.

Самым настойчивым просителям показывают "инструкцию по расчету платы граждан за пользование жилищными помещениями и коммунальными услугами", где черным по белому написано: "В соответствии со статьей 51 Жилищного кодекса РБ, наниматели, собственники жилых помещений, члены организации граждан-застройщиков обязаны ежемесячно участвовать в финансировании затрат на капитальный ремонт вспомогательных помещений...". Выходит, что деньги должны расходоваться на ремонт кровли, подвалов, подъездов (чего не было уже 10 лет), а не на озеленение и дорожки. Это делается за государственный счет. Так говорят в исполкоме.

**Светлана ТЕРЕЩЕНКО,**
**студентка-журналистка.**

# Бесценный теленок

Каждую весну баба Зина, наряду с другими старухами-вдовами, содержащими коров, решает одну и ту же задачу: кому продать теленка, кто даст за него большую цену? Эта задача имеет три варианта решения, но, как убедилась старуха, все три получаются с отрицательным результатом.

Вариант первый. Самый, говорят, выгодный. Зарезать и отвезти на базар, в Столбцы. Но для нее он неприемлем по нескольким причинам. Кто зарежет? Кто отвезет? Кто пробьет место в торговых рядах маленького, тесного мясного павильона?

Второй вариант. Выгодный для государства. Сдать на откорм в колхоз. Но и он для бабы Зины не самый удачный, в смысле, проблемный. В последнее время, три года подряд — точно, из колхоза Пушкина, в контору которого она звонит, слышит одно и то же. Дескать, привозите сами, у нас нет транспорта, нет бензина, нет солярки для того, чтобы ездить за одним теленком. Вот если бы пять... Пять у бабы Зины не бывает. Каждую весну корова телится одним теленком.

Одну весну теленок бабы Зины по этой причине остался на подворье. Болтался возле дома, привязанный на веревке к колышку, или по деревне. Чем осложнял и так непростую жизнь пенсионерки, занятой огородом. В стадо его не приняли по причине малолетства. В общем, с горем пополам вырос теленочек в хорошего бычка. "Его бы на мясокомбинат сдать, да где же я машину найду, да и договориться как-то раньше надо. Просто так не завезешь", — вздыхала бабуля.

Резали бычка человек восемь. Гуляли потом сутки. Чуть спровадила своих помощников. И никто с пустыми руками не ушел. Каждый нес в газете свеженину. В итоге остались от бычка рожки и ножки.

На вторую весну бабе Зине, как она считает, повезло больше. Теленочка купили горожане. Приехали на машине, погрузили в багажник и увезли. На откорм. Забросили в сарай к престарелым родителям под Минском. Потом весну, лето разрывались между городом и деревней. Нахлебались за полгода так, что когда и этой весной им предложили соседского сосунка, отмахивались руками и ногами. Так же, как и баба Зина, зареклись питаться домашней диетической телятинкой.

Остался у бабы Зины один вариант, беспроигрышный: сдать-таки в колхоз. Но и безвыигрышный: денег за него не получит. Ни сегодня, ни через месяц... Более того, ей и другой такой же горемычной старухе самим пришлось раскошелиться, отстегнуть от своей скудной пенсии по четыре тысячи, нанять машину и отвезти телят в колхоз имени Пушкина. А там еще часа три прождать вначале — заведующую фермой, а потом — печать. За труды и телят бабулям вручили по бумажке, в которых указан вес теленка. И только. Цены за килограмм живого веса и в помине нет. Бесценный теленок? Нет, баба Зина надеется, что ей за него осенью заплатят. "Просила пять жита за один килограмм веса теленка и пять — сена. Половину житом, половину — сеном. Не дали".

**Вера АЛЕКСАНДРОВИЧ.**

Народная Воля 16 МАЯ 2001 г.

# УРБАНІЗАЦЫЯ



**Зянон ПАЗЬНЯК, кандыдат мастацтвазнаўства**

Мы, беларусы, гістарычна малады народ. Прыблізна тысячу гадоў таму ў нас адбыўся культурны выбух. Супала некалькі цывілізацыйных падзей. Практычна ў адзін і той жа час узніклі гарады, пісьмовасць, дзяржава і распаўсюдзілася Хрысціянства. За вельмі кароткі час нашы продкі выйшлі з гістарычнага нябыту і стварылі вялікую цывілізаваную магутную дзяржаву, якая сталася не толькі геапалітычнай, але і культурнай з'явай Еўропы.

Дынамічным чыннікам, маторам еўрапейскай культуры былі гарады. Беларускія гарады карысталіся Магдэбургскім правам, мелі самакіраванне і вольнае саслоўе, канцэнтравалі гандаль і рамесніцкую вытворчасць, былі цэнтрамі адміністрацыі і рэлігіі, станавіліся часта (што датычыць сталіц) духоўнымі і культурнымі цэнтрамі ўсяго народа.

Аднак, каб урухоміць цывілізацыйную ролю гарадоў на ўсё грамадства, патрэбна, каб існавала прадуманая урбаністычная сістэма сувязі паміж горадам і вёскай, спалучаная з камунікацыйнымі магчымасцямі людзей.

У сярэдневяковай Беларусі, гэта значыць у Вялікім княстве Літоўскім, якраз была створана і добра дзейнічала такая сістэма. Прынцып яе заключаўся ў тым, што паміж сталіцай, вялікімі гарадамі і вёскай існавала мноства маленькіх гарадкоў — паселішчаў з сацыяльна-культурным статусам гарадскога цэнтру. Гэта славутыя беларускія мястэчкі.

Мястэчка, як правіла, было цэнтрам мясцовай адміністрацыі і парафіі. Тут былі царква і касцёл. У мястэчку, акрамя сялян, жылі гандляры, мяшчане і рамеснікі, былі крамы, школа, аптэка, часам шпіталь ці пры боку кляштар і замак, будынкі адміністрацыі. У мястэчках існавала галоўная гандлёвая плошча і рынак. Шмат якія мястэчкі мелі самакіраванне, магдэбургскія гербы і свабоднае саслоўе.

Беларускія мястэчкі, як правіла, размяшчаліся на адлегласці ад 12 да 16 кіламетраў адно ад аднаго. Мы можам нядрэнна прасачыць гэтую сістэму на тэрыторыі былой Віленшчыны, дзе яна найлепш захавалася.

Пачнем адвольна, скажам, з Дзявенішак. Праз 14 кіламетраў на поўдзень ад Дзявенішак — мястэчка Суботнікі; на захад ад Суботнікаў за 12 кіламетраў — мястэчка Геранёны з замкам і касцёлам; за 16 кіламетраў на паўднёвы захад — мястэчка Ліпнішкі; за 12 кіламетраў на паўночны ўсход — мястэчка Трабы з царквой і касцёлам; за 12 кіламетраў на ўсход — мястэчка Юрацішкі; ад Юрацішак за 14 кіламетраў на паўднёвы захад — мястэчка Іўе, а за 12 кіламетраў на поўдзень — Лаздуны; 12 кіламетраў за Лаздунамі — Бакшты; за 14 кіламетраў на захад ад Іўя — Ліпнішкі; за 12 кіламетраў ад Ліпнішак — мястэчка Тракелі, потым Воранава, Беняконі і г.д. ва ўсе канцы праз 12, 14, 16 кіламетраў ёсць мястэчкі.

Калі пайсці на паўночны ўсход ад Суботнікаў праз Трабы, то далей, праз 14 км ад Трабаў, — славутае мястэчка Гальшаны з замкам і касцёлам. Збоку — Меднікі з замкам, з другога боку — Багданава, потым — Вішнева з касцёлам і царквой. Ідучы гэтак на паўночны ўсход праз Жупраны, Ашмяны, мы дойдзем, мінаючы шэраг мястэчак, да Астраўца, Гервятаў, Свенцянаў, потым да Відзаў, Дрысвятаў, Опсы, горада Браслава, потым, праз 12 кіламетраў — да мястэчка Слабодка, праз 14 — да мястэчка Плюсы, далей — да Друйска, Друі, Прыдруйска і так аж да Невеля — паўночнай мяжы былога Вялікага княства.

Гэтак жа, ці то ад Дзявенішак праз Яшуны, Салечнікі, ці то ад Гальшанаў мы праз кожныя 12—16 кіламетраў, мінаючы мястэчкі, дойдзем да Вільні, Лентварова ды Трокаў і потым — на Майшаголу і Няманчын.

Такая ж сістэма сягае аж да Беластоку і Берасця. Выразна праглядваецца яна вакол Мінска, Магілёва і Віцебска ды Полацка. Рэшткі яе існуюць і ў паўднёвай Беларусі вакол Пінска ды Мазыра.

Рацыянальнасць урбаністычнай сістэмы Вялікага княства відавочная. Кожнае мястэчка, як бачым, мела радыус ахопу тэрыторыі 6—8 кіламетраў. Гэта псіхалагічна максімальная адлегласць для пешахода, калі чалавек мог кіравацца ў дарогу пехатой, не спадзеючыся на каня. Тым часам гэта адна гадзіна язды на запрэжаным кані.

Жыхар любой вёскі ў разе патрэбы мог у любы час на працягу адной-дзвюх гадзін трапіць у мястэчка. У мястэчку якраз і адбываўся культурны абмен паміж горадам і вёскай. **Мястэчка было рэальным перадатачным звяном культуры.**

Паміж мястэчкам і горадам існавала рэгулярная чаўночная міграцыя і сувязь (гандлёвага, адміністрацыйнага, канфесійнага і іншага парадку). У мястэчку і ў горадзе быў у прынцыпе аднолькавы характар культуры, толькі ў мястэчку ў меншым маштабе. (Дарэчы, і архіўныя, і археалагічныя матэрыялы добра гэта пацвярджаюць.)

Тым часам селянін часта і рэгулярна наведваў не горад, а якраз мястэчка, і адтуль чэрпаў свае ўяўленні пра больш шырокі свет і гарадскія дачыненні.

Урбаністычная сістэма Вялікага княства дала вельмі шмат для беларускай культуры. Яна забяспечыла ёй агульнаграмадскі еўрапейскі ўзровень і засцерагла ад правінцыялізму. Гэта значыць ад культурнага разыходжання, ад бездані паміж горадам і вёскай.

Там, дзе не існавала сістэма культуратворнай (еўрапейскай) урбанізацыі, там заўсёды прысутнічаў грамадскі правінцыялізм. (Велічная Бухара ды Самарканд — у атачэнні жывёлагадоўчых плямён з прымітыўнымі заняткамі ды ўяўленнямі; купецкая Масква, чыноўны Пецярбург і побач, як казалі самы расійцы, — "мерзость российской действительности".)

У Расіі не было ні вольных гарадоў, ні самакіравання, ні Магдэбургскага права, ні мястэчак, ні прадуманай сістэмы урбанізацыі. Такі стан вынікаў увогуле з неэўрапейскага характару рускага грамадства. На пачатку XX стагоддзя ў Расіі існавала велізарная культурная розніца паміж горадам і вёскай. Бальшавікі паставілі задачу ліквідаваць гэтую бездань. І ліквідавалі па-свойму: разбурылі вёску і знішчылі сялянства. (Набудавалі таксама непатрэбных савецкіх гарадоў, у якіх немагчыма жыць.)

На Беларусі яны першым чынам ліквідавалі саму назву "мястэчка". Перайменавалі мястэчкі то ў "дзярэўні", то ў "гэпэ" ("гарадскія пасёлкі"). Расійцы моцна дэфармавалі функцыі беларускага мястэчка, шмат якія мястэчкі давялі да поўнай дэградацыі, але знішчыць дазвання ўсё ж не паспелі.

Урбаністычная палітыка расійскіх камуністаў на Беларусі заключалася ва ўкараненні такой мадэлі, якая б стымулявала працэсы русіфікацыі беларусаў і міграцыі расійцаў у Беларусь. Зыходзячы з гэтай задачы, у пачатку 60-х гадоў, на закрытым пасяджэнні ЦК КПСС у Маскве было прынята рашэнне аб разбудове Мінска ў вялікі мегаполіс са шматмільённым насельніцтвам.

Потым, у 1964 годзе, узнік план ліквідацыі на Беларусі вясковых паселішчаў. Дзеля гэтага быў прыдуманы тэрмін "неперспектыўная вёска". 73 працэнты беларускіх вёсак намерваліся ліквідаваць, сцерці з твару зямлі.

Гэты план ужо не меў дачынення да урбанізацыі. Адкрыта рыхтавалі культурную катастрофу і вынарадаванне беларускай нацыі.

Мы, беларусы, павінны быць удзячныя Богу, што своечасова распаўся Савецкі Саюз.

Дбаючы пра нашу будучыню і нашу культуру, мы мусім будзем шмат што адбудаваць, адрадзіць, аднавіць; у тым ліку вярнуцца да культуратворнай сістэмы урбанізацыі, абумоўленай інтарэсамі нашага грамадства, дабром нашых людзей, эканомікай, экалогіяй і культурнай перспектывай. **Мы павінны будзем адрадзіць нашы мястэчкі.**

Беларуская гісторыя нам штодзённа сцвярджае і сведчыць, што наша нацыянальная будучыня знаходзіцца ў нас саміх. Мы, і толькі мы, беларусы, мусім яе ажывіць і ўсталяваць на нашай зямлі.

## ДАЙДЖЕСТ



*Королева Елизавета.*

### Королева Елизавета приступает к реорганизации монархии

Британская королева Елизавета II согласилась с пока еще секретным планом, который изменит лицо английской монархии. Как стало известно газете The News of The World, суть нововведений заключается в том, что отныне британская королевская семья будет "двухъярусной". Часть особ королевской крови будет представлять английскую монархию и обладать всеми привилегиями, соответствующими статусу. Другая — продолжит заниматься своим бизнесом, но должна будет покинуть дворцы и отказаться от всех льгот, положенных членам королевской семьи. По словам представителя Букингемского дворца, королева намерена закрыть Кенсингтонский дворец, что позволит сэкономить около 1,1 миллиона фунтов стерлингов английских налогоплательщиков.

### НАТО разрешило Сербии занять участок зоны безопасности вокруг Косово

Постоянный совет НАТО принял решение допустить части югославской армии в ключевой сектор "В" в трехмильной буферной зоне вокруг Косово. Согласно решению, принятому в Брюсселе, югославские военные, которые были вынуждены покинуть этот район в 1999 году в результате военной операции НАТО против Югославии, вернутся туда 24 мая этого года. Данный участок зоны безопасности до сих пор считался оплотом албанских боевиков, которые, по их собственным словам, сражаются против сербов, преследующих местное албанское население.

**"Рейтер".**

### Германские фирмы тайно поставляют ракетные технологии Египту

Некоторые средства массовой информации сообщили о том, что германские компании втайне продают египетской армии новейшие детали для создания систем наведения для баллистических ракет средней дальности. Сообщая эти данные, журналисты ссылаются на источники в разведывательном ведомстве одной из европейских стран. По сообщению источника, Египет обратился к Германии после того, как стала очевидна невозможность "получить эти детали из других источников". По имеющейся информации, новые детали предназначены для применения в ракетной программе Al Bader.

**"Уорд Трибьюн".**

### Пропавший самовар Сталина обнаружили на свалке

Похищенный 9 мая из дома-музея Иосифа Сталина на его родине в городе Гори самовар был обнаружен сотрудниками полиции на городской свалке. По версии специалистов, похититель самовара испугался ажиотажа, поднятого вокруг дела об ограблении дома-музея Сталина и решил избавиться от реликвии. Эксперты не обнаружили на самоваре каких-либо повреждений. В ближайшее время экспонат будет возвращен в музей.

### Джеб Буш заявил, что не спал с министром штата Флорида

Младший брат президента США, губернатор штата Флорида Джеб Буш в категорической форме опроверг и назвал "откровенной ложью" сообщения американских СМИ о том, что он был замечен в "любовных связях" с министром управляющих служб в правительстве своего штата Синтией Хендерсон. Он также заявил, что распускаемые о нем "безобразные" слухи являются "политическими по своему характеру". "Ложь была распространена через слухи, а затем, к сожалению, была напечатана", — заявил Буш. При этом, как подчеркнул губернатор, крайне неприятен сам факт того, что ему вообще приходится отвечать на подобные вопросы прессы.

### Тбилисские домохозяйки напали на городских проституток

Группа жительниц Тбилиси, вооруженных палками, устроила погром в одном из новых кафе Дидубийского района столицы. По мнению тбилисских домохозяек, участвовавших в погроме, это кафе служило местом сбора проституток. Разгневанные поборницы нравственности избили несколько девушек, выбили все стекла и уничтожили инвентарь кафе. Мужчинам, присутствовавшим в кафе вместе с предполагаемыми проститутками, удалось благополучно скрыться с места происшествия.

**РИА "Новости".**

## ПРИВЕТ ИЗ ЛОНДОНА

# Британия среднего класса

Большинство населения Туманного Альбиона составляет средний класс. Впервые количество людей, принадлежащих к этому социальному слою, обогнало по своей численности тех, кто занят ручным трудом.

Согласно данным, опубликованным лондонскими газетами, численность среднего класса достигла 50,6 процента от числа всех работающих.

Для сравнения замечу, в 1968 году на его долю в Великобритании приходилось лишь 34 процента работающих.

В новой, ельцинской России средний класс начал формироваться в Москве, Питере после 1995 года, но был "убит" кризисом 98-го года и до сих пор практически не возрожден. В Беларуси же есть только богатые (0,5%) и только бедные. А место среднего класса занимают хиреющий из года в год отряд представителей малого, очень маленького бизнеса и госчиновники разного профиля, имеющие возможность нелегально зарабатывать, злоупотребляя своим служебным положением. Однако официально по уровню официальной декларируемой зарплаты все они тоже числятся среди бедных.

Во всех странах численность среднего класса является свидетельством прогресса. В Британии он налицо. Именно происходящие в последние годы в экономике страны колоссальные изменения в результате введения новейших технологий привели к образованию новой мощной социальной структуры Великобритании.

Еще две новости, касающиеся уровня жизни британцев, принес 2001 год. Плохая новость: стоимость жизни средней британской семьи возросла до 360 фунтов в неделю. Это на 7,4 фунта больше, чем в прошлом году. Хорошая новость: семейные доходы тоже выросли и колеблются между 380 и 400 фунтами стерлингов в неделю.

Эти цифры приведены в официальном правительственном отчете, анализирующем цены так называемой "потребительской корзины" и основных услуг.

Большую часть доходов британская семья тратит сегодня на досуг и развлечения. Эта графа в расходах опережает даже затраты на питание.

| Товары/услуги | февраль 2000 г. | февраль 2001 г. |
|---|---|---|
| Досуг, развлечения | 59.70 | 65.50 |
| Еда и б/алкогольные напитки | 58.90 | 59.60 |
| Жилье | 57.20 | 57.00 |
| Автомобиль | 51.70 | 52.60 |
| Хозяйственные товары и услуги по содержанию дома | 48.50 | 49.60 |
| Одежда, обувь | 21.70 | 21.00 |
| Алкоголь | 14.00 | 15.30 |
| Предметы личной гигиены и услуги | 13.30 | 13.90 |
| Коммунальные услуги | 11.70 | 11.30 |
| Транспортные расходы | 8.30 | 9.20 |
| Табак | 5.80 | 6.00 |
| Разное | 1.20 | 1.40 |
| Всего | 352.00 | 359.40 |

Предлагаю в познавательных целях дописать читателям суммы, которые каждый из них тратит на указанные в таблице товары и услуги. Впрочем, если у вас больное сердце или слабые нервы, тогда, ну ее, эту статистику.

*Колонна Нельсона. Трафальгарская площадь.*

## "Король бензоколонки" стал банкротом

Белорусским потребителям есть чему поучиться у британских коллег. Вот, к примеру, во время недавнего бензинового кризиса нашлись "деятели" среди владельцев гаражей и бензоколонок, решившие поживиться на трудностях британцев. Некто Пол Джизонио, владелец гаража в Дерби, пользуясь случаем, взвинтил цены более чем в два раза, то есть брал 1,99 фунта за литр бензина. Автомобилисты, конечно, платили, но затаили на "грабителя" обиду. И когда ситуация с бензином стабилизировалась, водители устроили "экономическую блокаду" местному "королю бензоколонки". Они перестали заправляться у Пола Джизонио. В итоге бизнесмен разорился и его бензоколонка пошла "с молотка".

Конечно, британскому потребителю проще, чем его белорусскому брату. Ведь он борется с единичными случаями. Белорусам же противостоит не один зарвавшийся бизнесмен, а целое государство, причем свое вроде, как бы даже родное...

## Рентген-разоблачитель

В шотландском городе Перт вор был задержан в кабинете врача, после того как рентген показал, что у него в желудке находятся украденные бриллианты. Собственно дискомфорта от столь необычного содержимого своего желудка вор не испытывал. И к врачу его "привел"... полицейский констебль. Дело в том, что эти драгоценные камешки преступник "нашел" в чужой квартире. А когда сработала сигнализация, он проглотил бриллианты и попытался убежать через окно. Но прыжок с высоты третьего этажа оказался не самым удачным. В итоге матерый "домушник" был найден нарядом полиции лежащим под окном обворованной квартиры с переломом бедра. Его доставили в полицейский госпиталь, где кроме перелома шейки бедра рентген высветил и бриллианты в желудке. Узнав о результатах рентгена, полиция приставила к больному охранника с горшком...

Видно, шотландский вор не знал новорусскую народную мудрость: лучше синица в руке, чем "утка" под кроватью...

**Евгений СУЛЫГА, собственный корреспондент "Народной воли" в Великобритании.**

## ДУХОЎНЫ СКАРБ

*Энцыклапедыя "Народнай волі" Выпуск №12*

# Павел Шэйн

## Волат у фальклярыстыцы



...Гэтая фальклорная паездка для Паўла Васільевіча была далёка не першай. Збіраючы песні, расказваючы пра побыт, звычаі, традыцыі насельніцтва Паўночна-Заходняга краю, ён пабываў у многіх населеных пунктах. З такім намерам апынуўся і ў Барысаве. Па аднойчы і назаўсёды прынятай ім завядзёнцы вырашыў прадставіцца мясцоваму начальству. Завітаў да так званага штатнага наглядчыка. Той да рэкамендацыйнага ліста, падпісанага вядомым рускім моваэнаўцам, акадэмікам Пецярбургскай акадэміі навук Я.Гротам, паставіўся спакойна і з разуменнем. Даведаўшыся, што за мэту фальклорнай экспедыцыі поруч з іншымі задачамі ставіцца і назіранне за станам беларускай мовы, іранічна запытаўся:

— Якія яшчэ назіранні? — ён прамовіў з пагардай, акцэнтуючы ўвагу на слове "назіранні".

Шэйн даходліва расказаў, што ў розных мясцовасцях склад мовы неаднолькавы, ёсць адрозненні ў вымаўленні адных і тых жа слоў, таму ён хоча па меры магчымасці падвесці іх пад агульныя законы граматыкі.

— Законы? — адчувалася, што міравому пасрэдніку вельмі хочацца пакпіць і з самой беларускай мовы, і з аднаго з тых, хто збіраецца яе абараняць:

— Кажаце, беларуская мова?

— А што, па-вашаму?

— Разве это язык?

Чыноўнік браў беларускія словы, якія ведаў, "перакручваў", перайначваў іх. І рабіў гэта з адной мэтай, каб яны нагадвалі невыразныя, нечленараздзельныя... гукі жывёлы.

Пазней, калі Павел Васільевіч займецца падвядзеннем вынікаў гэтай экспедыцыі, 28 лютага 1878 года нагадае Я.Гроту пра гэты прыкры выпадак: "Прысутнічаючыя пры гэтым члены мясцовай інтэлігенцыі з вышэйшых сфер адміністрацыі і юстыцыі, сапраўдныя абрусіцелі, моўчкі выказвалі сваё адабрэнне і кідалі на мяне позіркі. Няма ніякага сумнення, што рускія чыноўнікі глядзяць на беларускага селяніна як на быдла, г.зн. дакладна так, як глядзелі на яго злейшыя прыгнятальнікі".

Нарадзіўся П.Шэйн ў 1826 годзе (больш дакладная дата невядома) у Магілёве ў старасвецкай яўрэйскай сям'і, у якой панавала замкнутая атмасфера. Хлопчык змалку цяжка хварэў. Гэта не перашкодзіла бацькам у пяцігадовым узросце накіраваць яго ў школу. Але часта прапускаў заняткі, а з 13 гадоў мусіў займацца дома. Павел Васільевіч успамінаў:

"Да пятнаццаці гадоў жыцця перахварэў я рознымі хваробамі, якія часта прыкоўвалі мяне надоўга да роднай бярлогі, да ложка пакут, а на пятнаццатым давялося перажыць лёс Іллі Мурамца, у першы перыяд яго жыцця, г.зн. зрабіўся калекам нехадзячым".

Лежма праляжаў два гады. Бацька, каб ўратаваць старэйшага сына, павёз яго ў Маскву, уладкаваў у Нова-Кацярынінскую бальніцу, дзе Павел лячыўся тры гады. За гэты час вывучыў рускую мову, а паколькі сярод медыкаў аказалася нямала немцаў, дасканала авалодаў і нямецкай. Зусім іншая, чым дома, атмасфера, паўплывала на фарміраванне светапогляду. У 1848 годзе прыняў лютэранскую веру, што прывяло да разрыву з бацькамі.

Заставалася самому выкараскацца з няпростых абставін. П.Шэйна прынялі ў сіроцкае аддзяленне нямецкага вучылішча пры лютэранскай царкве св.Міхаіла, у якой да вясны 1851 года лічыўся вучнем-пансіянерам. На гэты час прыпадае яго захапленне перакладчыцкай дзейнасцю. І сам спрабуе пісаць, збліжаецца з перакладчыкам Ф.Мілерам, які ў вучылішчы выкладаў рускую мову і літаратуру. Праз Ф.Мілера пазнаёміўся з паэтам, былым дзекабрыстам Ф.Глінкам і яго жонкай-паэтэсай. Глінкі кожны панядзелак арганізоўвалі ў сябе сямейныя пасяджэнні літаратурнага гуртка, на якіх хутка сваім чалавекам стаў і Павел Васільевіч.

З'явілася жаданне "працаваць на карысць рускай літаратуры ўсім, чым толькі магу і багаты". Быў выхавацелем дзяцей багатых бацькоў, пераязджаў з сям'і ў сям'ю. Са студзеня па май 1859 года выступаў з анатацыямі і рэцэнзіямі на новыя кнігі ці на выданні ў часопісе "Развлечение".

Летам 1861 года апынуўся ў Яснай Паляне, куды яго запрасіў выкладаць рускую мову Леў Талстой. Але не задаволіўся аплатай ды і ўзніклі разыходжанні з Львом Мікалаевічам па пытаннях выхавання. Таму пакінуў Ясную Паляну і тры гады працаваў у Тульскім павятовым вучылішчы. У канцы лета 1864 года пераехаў у Епіфань, дзе выконваў абавязкі штатнага наглядчыка павятовых вучылiш і настаўніка ў I—III класах пачатковай школы.

На гэты час прыпадае яго захапленне фальклорам. Пакрысе набралося некалькі сшыткаў запісаў, з якімі пазнаёміў К.Аксакава. Той ухваліў іх, а праз тры гады яны былі выдадзены і атрымалі высокую ацэнку вядомага збіральніка рускіх народных казак А.Афанасьева. Гэта надало П.Шэйну ўпэўненасці, і ён сабраў да 600 песень. Несумненна, і надалей працаваў бы ў гэтым кірунку, калі б не адбыўся рэзкі паварот у яго лёсе. У 1865 годзе папячыцель Віленскай навучальнай акругі І.Карнілаў прапанаваў пераехаць у Віцебск і стаць выкладчыкам нямецкай мовы ў мясцовай гімназіі.

З выкладчыцкай працай, праўда, у Віцебску не пашанцавала. І навучэнцы, і педагогі не вельмі ўспрынялі яго. Але менавіта ў Віцебску нарадзіўся П.Шэйн як беларускі фальклярыст. На гэта падштурхнула тое, што Рускае геаграфічнае таварыства вырашыла ўсур'ёз заняцца зборам і запісам вуснапаэтычнай творчасці ў розных рэгіёнах Расіі. У 1867 годзе было створана аддзяленне і ў Вільні, узначаліць якое даручылі таму ж І.Карнілаву, які і ўспомніў пра П.Шэйна.

Павел Васільевіч звярнуўся да навучэнцаў, і тыя хутка запісалі прыкладна 150 песень, духоўных вершаў і абрадаў. У сваю чаргу сам П.Шэйн наладзіў сустрэчы са старажыламі Віцебшчыны. Стары салдат Тарас Ліпаў, нянька Арына, а таксама Марыя Каткавічоўна з Чашнікаў наспявалі яму ажно 400 песень.

Каб запіс фальклору набыў больш шырокі характар, Павел Васільевіч распрацаваў спецыяльную праграму. Спачатку яна была надрукавана ў 600 паасобніках, а пасля неаднаразовых перавыданняў наклад яе да 1893 года дасягнуў 12 тысяч адпаведнікаў.

У П.Шэйна хутка з'явіліся шматлікія добраахвотныя памочнікі. Сярод іх быў і пазней вядомы фальклярыст М.Нікіфароўскі. Уласныя запісы, а таксама прысланыя карэспандэнтамі Павел Васільевіч сістэматызаваў, аб'ядноўваў па раздзелах. Так атрымаўся ладны том "Беларускія народныя песні". Яшчэ ў рукапісе ён быў удастоены залатога медаля Рускага геаграфічнага таварыства, а 4 кастрычніка 1871 года П.Шэйна выбралі членам-супрацоўнікам РГТ. Сам жа зборнік увайшоў у пяты том "Запісак" таварыства і пабачыў свет у 1874 годзе. Праз год Акадэмія навук удастоіла П.Шэйна Увараўскай прэміі.

Гэтыя песні Я.Карскі назваў "адным з лепшых збораў беларускай паэзіі". Дый том атрымаўся аб'ёмным: 35 друкаваных аркушаў, 996 песень, а ўсіх фальклорных тэкстаў 1006. Аднак поспехі на фальклорнай ніве не прынеслі П.Шэйну асаблівай уладкаванасці ў жыцці. Развітаўшыся з Віцебскам летам 1873 года, некаторы час выкладаў нямецкую мову ў прагімназіі горада Шуі, у Зарайску працаваў настаўнікам рускай мовы і славеснасці ў рэальных вучылішчах, пераехаў у Калугу... І гэтак да 1881 года, калі пайшоў у адстаўку і пасяліўся ў Пецярбургу.

Па меры магчымасці працягваў запісваць фальклор. Прынамсі, хацеў "сабраць як мага большую колькасць моўных даных, якія б маглі паслужыць надзейнай асновай для вызначэння характэрных рыс беларускай гаворкі як з боку фанетычнага, так і граматычнага". Планаваў таксама "асабіста праверыць з гукавога боку гаворкі тых мясцін, адкуль дастаўлена была значная частка матэрыялу для зборніка "Беларускія народныя песні". Выбар спыніў на паўночных паветах Магілёўскай, Мінскай і Віцебскай губерняў. Збіраўся наведацца і ў Смаленскую. Акадэмія навук пайшла насустрач і адвяла на экспедыцыю тры з паловай месяцы.

Не аказаўся без справы і вядомы рускі кампазітар М.Рымскі-Корсакаў, з якім П.Шэйн сябраваў. Ён з голасу Паўла Васільевіча пераклаў некалькі музычных твораў на ноты. Акрамя таго, рэдагаваў асобныя тэксты, перапісваў, унёсшы неабходныя праўкі, 38 вясельных песень, пасля чаго падрыхтаваў іх да друку. Паступова вымалёўваліся абрысы шматтомнага выдання "Матэрыялы для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю".

Як відаць з назвы, П.Шэйн не змог пазбавіцца распаўсюджанага на той час меркавання, што гэты куток Расіі насялялі рускія. Аднак першая частка першага тома "Матэрыялаў...", якая выйшла ў 1887 годзе, усё ж мела падзагаловак "Бытавое і сямейнае жыццё беларуса ў абрадах і песнях". Гэты ж год, нарэшце, прынёс Паўлу Васільевічу асабістае шчасце. Дагэтуль адзінокі, ён ажаніўся на шмат маладзейшай за яго П.Вінаградавай. Будучы амаль непісьменнай, яна аказалася надзіва душэўнай і шчодрай. Праз год у іх нарадзілася дачка. А паколькі дома панавалі спакой і ўзаемаразуменне, то і працавалася плённа.

У 1890 годзе пабачыла свет другая частка першага тома "Матэрыялаў...", у 1893 годзе з'явіўся другі том. Праўда, заключны, трэці, змог выйсці толькі ў 1902 годзе, калі самога фальклярыста ўжо не было ў жывых.

Чатыры кнігі ўмясцілі агромністы матэрыял, што тычыцца жыцця беларусаў. У першай частцы першага тома апублікаваны звесткі пра народныя абрады, прыводзяцца абрадавыя песні, павер'і, прымхі, а таксама песні бяседныя, бытавыя, жартоўныя, а ўсяго — 749 пазіцый. Не менш іх і ў другой частцы — 1005! А гэта абрады і вясельныя песні, абрады пахавальныя і памінальныя, галашэнні над памерлымі. Багаты па змесце другі том: казкі, анекдоты, легенды, паданні, успаміны, прымаўкі, загадкі, вітанні, паданні, праклёны, загаворы (і нават сварка), духоўныя вершы, малітвы... І нарэшце, у заключным томе адлюстраваны беларускі народны побыт.

Наколькі вялікая праца праведзена П.Шэйнам, відаць з ацэнкі, дадзенай сучасным даследчыкам з Санкт-Пецярбурга М.Новікавым, аўтарам кнігі "Павел Васильевич Шейн" (1972): "Можна з упэўненасцю сказаць, што ні адзін з існуючых беларускіх фальклорна-этнаграфічных зборнікаў не можа параўнацца з "Матэрыяламі..." па колькасці, разнастайнасці і шырыні прадстаўленых у ім сямейных і каляндарных абрадаў з песнямі і галашэннямі, што адносяцца да іх, дастаўленымі з розных месц Беларусі. Па сутнасці, імі амаль цалкам заняты дзве кнігі першага тома і часткова трэці том зборніка. Вялікі навуковы і грамадскі інтарэс уяўляюць так званыя бытавыя песні, асабліва песні рэкруцкія і салдацкія, выдзеленыя Шэйнам у спецыяльныя рубрыкі".

Работа над "Матэрыяламі..." займала ў П.Шэйна ў апошнія гады жыцця шмат часу, але яна не абмяжоўвала яго фальклорныя, навуковыя памкненні. У 1898—1900 гадах выйшла двухтомная праца "Великарус у сваіх песнях, абрадах, звычаях, вераваннях, казках, легендах і т.п.". Па даручэнні Я.Грота ён працаваў над акадэмічным слоўнікам рускай літаратурнай мовы. Яшчэ ў 1874 годзе П.Шэйн задумаў выпусціць зборнік рускіх народных дзіцячых песень, казак. Вясной 1898 года ён з'явіўся ў якасці дадатку да часопісу "Детский отдых". У падзагалоўку паведамлялася, што яго склаў А.Грузніскі па матэрыялах П.Шэйна.

Нарэшце, менавіта Павел Васільевіч парупіўся, каб сабраць біяграфічныя звесткі пра вядомага беларускага фальклярыста І.Насовіча, запісаўшы пасля смерці вучонага ўспаміны яго сына. Сам жа выступіў у друку з артыкулам "І.І.Насовіч".

Лёс падрыхтаваў П.Шэйну яшчэ адно выпрабаванне. 26 лютага 1897 года пасля цяжкай хваробы памерла жонка. Дачку давялося ўладкоўваць у маладлетняе аддзяленне Санкт-Пецярбургскага Елізавецкага інстытута. Сам жа даводзіў да ладу яшчэ неўпарадкаваныя запісы "Матэрыялаў...".

Летам 1900 года сабраўся да сябра ў Курскую губерню. Прабыўшы ў яго каля двух тыдняў, паехаў на курорт Дубельн (цяперашнія Дубулты, Латвія). Па дарозе цяжка захварэў. Памёр 27 жніўня 1900 года ў рыжскай гарадской бальніцы.

П.Шэйн у гісторыі фальклярыстыкі застаўся волатам.

**Міхась ЯНОВІЧ.**

*Пра Паўла Шэйна можна прачытаць.*

***Беларусы.** У 8 т. Т.3.Гісторыя этналагічнага вывучэння. Мн., 1999.*

***Новиков Н.** Павел Васильевич Шэйн. Мн., 1972.*

